**№111 (1674)**

Пятніца, 20 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +14...+16, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +13...+15, дождж, уначы — +10...+12, без ападкаў; у Гродне ўдзень — +14...+16, дождж, уначы — +9...+11, без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +14...+16, дождж, уначы — +8...+10: без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +15...+17, без ападкаў, уначы — +11...+13, дождж; у Магілёве ўдзень — +14...+16, дождж, уначы — +8...+10, без ападкаў.

*www.meteo.by*



**БЕСПРЕДЕЛ**

## «В иске отказать...»

*Вчера Высший Хозяйственный суд Беларуси не удовлетворил иск издательского предприятия "Марат" о признании недействительным предупреждения, вынесенного в адрес "Белорусской деловой газеты" за статью журналиста Сергея Сацука "Где леоновские миллионы?". Так решила судья Елена Николаева.*

В статье **Сергея Сацука** были приведены цитаты из выступления экс-генерального директора Минского тракторного завода в Верховном суде, где **Михаил Леонов** высказал свое отношение к предъявленным обвинениям.

Напоминаем: Леонов заявил, что, на его взгляд, *"обвинение представляет собой бульварный детективчик"* и что для его дискредитации следствие использовало методы Геббельса, предоставляя для доклада А.Лукашенко якобы лживые сведения относительно его миллионных счетов за границей и *"разрушенной экономики завода"*.

Журналист "Белорусской деловой газеты", как, впрочем, и журналист "Народной воли", были официально аккредитованы в Верховном суде с целью освещения процесса по делу Михаила Леонова.

Судебный процесс над Леоновым — открытый, значит, аккредитованные журналисты имеют полное право фиксировать услышанное в зале суда и информировать об этом своих читателей.

Однако в прокуратуре Беларуси сочли, что если текст выступления Леонова по его же ходатайству был приобщен к материалам уголовного дела, то, в соответствии с п.14 ст.6 УПК Беларуси он является материалом уголовного дела, а значит, журналисты не имели права публиковать его выступление (или цитаты из него) без письменного разрешения судьи *(статья 5 Закона "О печати и других средствах массовой информации")*. Слова адвоката **Евгения Малиновского** о том, что **Сергей Сацук** не видел материалов дела и при подготовке материала пользовался аудиозаписью выступления Леонова, суд счел неубедительными...

Вице-президент Белорусской ассоциации журналистов, юрист **Андрей Бастунец** говорит, что подобное судебное решение вызывает много вопросов.

*"Теперь совершенно не понятно, что остается от гласности судебного процесса при таком подходе высшей судебной инстанции Беларуси к разрешению подобных споров,* — говорит Бастунец. — *На мой взгляд, Министерство информации не представило никаких доказательств обоснованности вынесенного предупреждения. Причем представители Министерства информации сами сказали, что не проверяли обоснованность предупреждения, отдав это на откуп прокуратуре".*

К каким только циничным методам удушения свободы слова не прибегают власти! Никак не поймут: напрасны их потуги.

**Марина КОКТЫШ.**

## Активистка «ЗУБРа» арестована во время экзамена

Активистка незарегистрированного движения "ЗУБР" Татьяна Еловая была арестована утром во время сдачи выпускного экзамена в школе. Сотрудники милиции предъявили Еловой решение суда Центрального района Минска от 19 мая, согласно которому она была заочно приговорена к 10 суткам ареста. Причина жесткого приговора — участие в акции "Долой тиранов", выражающей солидарность с действиями стран антихусейновской коалиции по освобождению Ирака от диктатуры.

Акция прошла 3 апреля у американского посольства. 18-летняя Татьяна Еловая была арестована, как только вышла из кабинета после успешной сдачи экзамена по истории Беларуси — ее последнего экзамена в школе.

Администрация школы продемонстрировала верность правящему режиму и оказала "правоохранительным органам" помощь в аресте своей ученицы.



## Выкралі больш за тры тоны сталі

Падчас правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікі ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі ГУУС Мінгарвыканкама сумесна з калегамі з Заводскага РУУС затрымалі чацвярых майстроў аднаго з мінскіх заводаў.

Напярэдадні гэтыя работнікі шляхам злоўжывання службовым становішчам выкралі 3540 кг хуткарэзнай сталі на суму больш за 17 мільёнаў рублёў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**ТЭМА ДНЯ**

# Лукашэнка запрашае Багданкевіча ў дарадцы?

На чарговай нарадзе ў "Чырвоным доме", як заўсёды, дамінаваў выключна цяперашні яго арандатар, які і патлумачыў, пры якіх умовах ён будзе ініцыраваць рэферэндум аб трэцім тэрміне сваіх прэзідэнцкіх паўнамоцтваў:

*"Я хачу проста пэўна сказаць, што калі апазіцыя і іншыя хтосьці, можа, хтосьці з нашай каманды будзе ствараць у краіне дадатковую нестабільнасць і краіна будзе рухацца дынамічна не да спакою і парадку, а ў зваротным накірунку, то вось гэта фактар, які прымусіць мяне больш актыўна працаваць на тое, каб застацца ва ўладзе. Калі ўсё будзе спакойна, краіна будзе развівацца як трэба, мы выконваць будзем тое, што намецілі, грамадства будзе стабільнае, якая розніца, хто будзе прэзідэнт? Важна, але не настолькі".*

Затым прамоўца звычна пусціўся ў заблытаныя, часцей за ўсё супярэчлівыя разважанні: *"Тут пытанне не асабіста маё і майго інтарэсу, застануся я ў Беларусі прэзідэнтам ці не. І не трэба рэферэндумаў працягваць яго паўнамоцтвы. Гэта не трэба нават рабіць. Прэзідэнт Беларусі павінен быць абраны толькі на прэзідэнцкіх выбарах. І ён будзе абраны толькі на прэзідэнцкіх выбарах, а не рэферэндумам. Рэферэндум патрэбны будзе толькі Лукашэнку, каб запытаць у народа дазвол, ці можна яму ўдзельнічаць у чарговых выбарах, вось і ўсё. Вось для чаго патрэбны рэферэндум у Беларусі. Калі мы прыйдзем да гэтага, то я абавязаны ў народа запытаць, дазволіць ён мне ўдзельнічаць ці не дазволіць. Але калі мы дэмакратычная дзяржава, чаму мы павінны забараняць? Напэўна, не трэба, але для гэтага трэба змяніць адпаведную норму Канстытуцыі. Гэта ў народа трэба запытаць. І не трэба тут рознага кшталту спекуляцыі, што Лукашэнка дзеля сваёй асабістай улады прадае краіну. Гэтага ніколі не будзе".*

Не, без каментарыяў тут не абысціся.




***Аляксандр ДАБРАВОЛЬСКІ, намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі:***

*"Усе гульні ў апошні час з дзяржаўнай ідэалогіяй і з рознымі заявамі наконт таго, што апазіцыя нібы дэстабілізуе сітуацыю, сведчаць пра з'яўленне страху ў Лукашэнкі, які не бачыць сябе нідзе, акрамя як пры ўладзе. Ён, напэўна, думае, што ўсе будуць такімі ж помслівымі, як і ён, таму і баіцца гэтага. Мне здаецца, што Лукашэнка быў моцны ў свой час, а зараз ён проста спёкся. Таму і вырашыў ісці на трэці раунд. Большасць грамадзян Беларусі, згодна з данымі сацыялагічных апытанняў, не падтрымліваюць ідэю аб трэцім тэрміне. Але Лукашэнку няма куды падзецца. Ім рушыць перш за ўсё страх! Ён проста хоча захаваць уладу і не адказваць за зробленае".*

***

Падчас нарады многіх здзівіла прапанова Лукашэнкі звярнуцца за парадай наконт увядзення ў Беларусі адзінай валюты да яго галоўнага ў мінулым "ворага" Станіслава Багданкевіча. З чаго гэта раптам? Нам удалося звязацца з былым старшынёй Нацыянальнага банка,які знаходзіўся ў Вільнюсе, і пацікавіцца яго думкамі.

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ:**

*"Пётр Пятровіч Пракаповіч вельмі павольна трактаваў мае парады. Я разам з іншымі ўдзельнікамі напярэдадні сустракаўся з ім на нарадзе ў будынку Нацыянальнага банка. Некаторыя падтрымлівалі ідэю ўвядзення адзінай валюты, большасць — не. Я сказаў, што сама ідэя пераходу на замежную валюту, якой з'яўляецца расійскі рубель, супярэчыць Канстытуцыі. Выкарыстанне расійскай валюты ва ўнутраным абарачэнні беларускай эканоміцы ніякіх перавагаў, акрамя дадатковай рызыкі, не дае. Гэта азначае поўную прывязку нашай эканомікі да расійскай і поўную залежнасць ад яе. Расійскі рубель, па выказваннях самога Пуціна, неканвертуемая і несамадастатковая валюта. Рызыка абвалу расійскага рубля вялікая. Таму, па маім перакананні, мы не павінны ўводзіць расійскі рубель".*

На пытанне, ці сведчыць сам факт, што Лукашэнка вырашыў звярнуцца да Багданкевіча за парадай аб тым, што ідэю інтэграцыі можна пахаваць, Станіслаў Антонавіч адказаў так: *"Я думаю, што Лукашэнка, як заўсёды, гандлюецца. Ён можа павярнуцца зноў да ўвядзення расійскага рубля ў нашай эканоміцы, калі гэтым будзе забяспечана яго палітычная будучыня як прэзідэнта Беларусі".*

**Алесь СІЛІЧ.**

# Единый рубль еще покажет Москве...

*Кажется, Москва рано стала потирать руки, предвкушая экспансию своего рубля в Беларусь. "Зайчик", мол, допрыгался и все такое. 18 июня, в тот самый день, когда российский премьер Касьянов на Петербургском экономическом форуме рапортовал, что две страны вплотную подошли к единой валюте, Александр Лукашенко в Минске дал понять: не говори "гоп", пока не перепрыгнешь.*

**Александр КЛАСКОВСКИЙ**

Если помните, российский вице-премьер Кудрин 7 июня — после триумфальных, как ему тогда казалось, переговоров в Минске — заявил, что соглашение о единой валюте практически готово. А весь пакет документов на сей счет будет, мол, доработан за каких-нибудь пару недель. Теперь выясняется, что наивный москвич поддался шапкозакидательским настроениям. 18 июня на совещании по вопросам единой валюты Александр Лукашенко оперировал иными сроками. По его словам, рассмотрение (заметьте: всего лишь рассмотрение!) проекта соглашения о введении единой валюты белорусская сторона закончит через полтора-два месяца. А вообще работа над этим документом — **"длительный процесс"**.

Но самое интересное прозвучало далее. Как сообщает БелТА, официальный белорусский лидер подчеркнул, что **"соглашение о единой валюте Союзного государства может быть принято и реализовано в жизнь только после того, как будут выполнены все соглашения, которые Беларусь заключила с Российской Федерацией"**. Вот так, ни много ни мало. Сразу представляешь, как вытягиваются лица у обитателей больших московских кабинетов.

В принципе, мягкий вариант этого отрезвляющего условия прозвучал из уст Александра Лукашенко еще 7 июня. Беларусь, отметил он на встрече с российскими переговорщиками, должна быть уверена в том, что все подписанные документы по созданию Союзного государства являются жизнеспособными и дадут положительный результат. Но эта многозначительная фраза утонула тогда в барабанном бое московской прессы: ура, мы ломим, и так далее... Теперь у россиян, посчитавших, что с Беларусью дело в шляпе, есть повод почесать затылок. Тем более что и в вопросе управления эмиссией (проще говоря, печатания денег) Лукашенко, как оказалось, уступать не собирается. На совещании 18 июня он, как в старые времена, заявил, что здесь должно быть полное равноправие — то есть чтобы решения принимал двусторонний надбанковский совет. Вот такие пироги.

"Подобное легко было спрогнозировать, — говорит белорусский политолог **Виталий Силицкий.** — После каждого "прорыва" в деле интеграции я жду, когда же пойдет открутка назад. Вопрос о деньгах — это вопрос о власти. А ее Лукашенко отдавать не собирается". По мнению Виталия Силицкого, белорусский руководитель всеми этими ремарками резервирует для себя возможность в нужный момент сказать Кремлю нет. Ведь в рамках Союзного государства подписано столько всяких оторванных от жизни бумаг, что всегда можно найти пару-тройку невыполненных пунктов. И тогда — извините, нам и с "зайчиком" неплохо живется!

Причем самое обидное для Москвы, что такой пассаж может случиться после того, как она щедро профинансирует переход страны-союзницы на единую валюту (обещана кредитная линия в 20 миллиардов российских рублей). А главное — все может пойти прахом уже после того, как белорусскому правителю дадут тихое согласие на тот самый референдум по вопросу третьего срока, о котором сегодня не говорит только ленивый.

И ведь закавыка еще в том, что сейчас Кремлю не с руки делать резкие движения по отношению к официальному Минску. У Путина и его команды на носу думские и не за горами президентские выборы. Надо всячески демонстрировать добрую волю к собиранию земель, чем еще грезит изрядная доля российского электората. И потому, как подчеркнул в беседе с автором этих строк финансовый эксперт **Валерий Дашкевич,** который видел проекты бумаг о единой валюте, **"если отбросить политический фактор, то Россия пошла на весьма выгодные для белорусской стороны условия"**.

В общем, ситуация вырисовывается пикантная. Прямодушные адепты белорусской независимости в очередной раз протрубили ее сдачу в свете грядущего заклания "зайчика". Но независимые аналитики склоняются к мнению, что Минск намерен всего лишь подоить российскую коровку. И в энный момент отчалить с полным ведром. Откровенно не питающая симпатий к Александру Лукашенко газета "Известия" провела в этой связи аллегорию со сказкой про хитрого Колобка, который ото всех ускользал...

В статье, однако, внимание акцентируется на драматическом финале сказки. Понятное дело, если на фоне договоренностей о едином рубле белорусский партнер вдруг начнет фокусничать, Москва попытается найти укорот. По мнению того же Валерия Дашкевича, российское руководство вполне может найти рычаги воздействия, не прибегая к политической перепалке. Например, к осени, когда Беларусь выберет лимит дешевого газа, свое веское слово может сказать тяжеловес "Газпром". Еще не забылась ведь "газовая атака" прошлогоднего ноября, когда одним поворотом вентиля (извините, сябры, квота иссякла, да и должок за вами приличный!) белорусская сторона была поставлена на колени.

Конечно, и в Минске не лыком шиты. Не единожды уже Москва получала от союзничка по первое число. Всё ей припоминали. И что на нефтедолларах жирует, а помогать братьям-славянам не хочет, забыв, как "вместе в окопах гнили". И что монстра НАТО наша доблестная армия на дальних подступах сдерживает. И что косвенные налоги во взаимной торговле российцы зажиливают, а это сотни миллионов долларов недобора для нашей казны!

Короче, встречный счет может оказаться тоже неслабым. Вот только назвать это жесткое политическое противоборство интеграционным процессом могут или витающие в эмпиреях романтики (покажите таких!), или откровенные циники. Скорее тут тот самый случай, когда паны дерутся, а у мужиков чубы трещат.

Ну а вообще Россия — действительно щедрая душа. И доверчивая. Там, кажется, забыли, что у рубля есть еще и реверс — проще говоря, оборотная сторона. Вот и может повернуться к Москве задом эта самая единая валюта.

*("Белорусские новости".)*

# Пратэстанты хочуць свабоды

Саюз евангельскіх хрысціян-баптыстаў звярнуўся да старшыні Камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры Савеце міністраў Беларусі Станіслава Буко з лістом, у якім гаворыцца, што рэлігійныя абшчыны і арганізацыі Саюза ЕХБ не могуць прымаць на сябе абавязацельствы, устаноўленыя новай рэдакцыяй закона "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях".

Саюз ЕХБ, зазначаецца ў лісце, занепакоены тым, што ўвядзенне закона "неправамерна абмяжоўвае права грамадзян на свабоду сумлення і веравызнання, а таксама замінае рэалізацыі права свабодна распаўсюджваць свае рэлігійныя перакананні і дзейнічаць у адпаведнасці з імі". Акрамя таго, гаворыцца ў пасланні, у законе закладзеная "дыскрымінацыя рэлігійных абшчын і грамадзян па прыкмеце прыналежнасці іх да традыцыйнай і нетрадыцыйнай рэлігіі, што з'яўляецца антыканстытуцыйным".

Як зазначаецца ў лісце, закон, які закліканы забяспечваць і гарантаваць правы кожнага на свабоду сумлення і свабоду веравызнання, "на практыцы аказаўся інструментам, што дае права "законна" ўшчамляць правы грамадзян і рэлігійных арганізацый, паколькі "дазваляе прымяняць яго нормы ў залежнасці ад уласнага меркавання чыноўнікаў і прыналежнасці рэлігійнай абшчыны альбо арганізацыі да традыцыйнай і нетрадыцыйнай рэлігіі".

Пры гэтым закон не прадугледжвае прававога механізму ўтварэння новай рэлігійнай абшчыны. "На практыцы гэта прыводзіць да таго, што сход групы менш за 20 чалавек класіфікуецца як незаконная рэлігійная дзейнасць", — гаворыцца ў лісце.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**



# Ассамблея депутатов местных Советов начинает действовать...

Так случилось, что это событие не получило большой прессы. Хотя его значимость большая.

Несколько дней назад 52 депутата из самых разных регионов Беларуси проголосовали за создание Ассамблеи депутатов местных Советов. Идея подобного объединения обсуждалась представителями различных партий и независимыми кандидатами на протяжении последних трех месяцев. В марте этого года была создана инициативная группа, которая провела всю подготовительную работу.

Ассамблея депутатов местных Советов приняла четыре документа — Декларацию, Заявление о социально-экономической ситуации в стране, Заявление о проведении довыборов депутатов местных Советов, Регламент Ассамблеи депутатов местных Советов.

## Заява
### Асамблеі дэпутатаў мясцовых Саветаў

Зыходзячы з агульных мэтаў:

* захавання незалежнасці Рэспублікі Беларусь,
* забеспячэння ў Беларусі правоў чалавека,
* пабудавання дэмакратычнай прававой дзяржавы,
* стварэння эфектыўнай эканомікі,
* вяртання краіне міжнароднага аўтарытэту,
* развіцця ў Беларусі мясцовага самакіравання,
* эфектыўнага вырашэння рэгіянальных праблем,

мы, дэпутаты мясцовых Саветаў дэпутатаў розных узроўняў, заяўляем аб стварэнні Асамблеі дэпутатаў мясцовых Саветаў.

Мы аб'ядноўваем свае намаганні, каб:

* абараняць правы і інтарэсы грамадзян, забяспечыць законнасць і прававы парадак у краіне;
* усталяваць кантроль грамадскасці над дзейнасцю мясцовых выканаўчых камітэтаў, у прыватнасці, галосны дэпутацкі кантроль размеркавання сродкаў мясцовых бюджэтаў і распараджэння маёмасцю, якая належыць мясцовай уладзе;
* садзейнічаць развіццю эканомікі рэгіёнаў, прадпрымальніцтва, росту інвестыцый, стварэнню новых рабочых месцаў, вырашэнню экалагічных і чарнобыльскіх праблем;
* садзейнічаць рэфармаванню жыллёва-камунальнай гаспадаркі з мэтай павышэння якасці камунальных паслуг і збалансавання платы за камунальныя паслугі ў параўнанні з сярэдняй заработнай платай;
* удасканальваць сістэму адраснай сацыяльнай падтрымкі малазабяспечаных грамадзян;
* садзейнічаць развіццю мясцовага транспарту і інфраструктуры;
* садзейнічаць развіццю адукацыі і культуры, спорту, паляпшэнню матэрыяльнага забеспячэння дзіцячых садкоў, школ, паліклінік і бальніц, а таксама даступнасці медыцынскіх паслуг для грамадзян, асабліва непрацаздольных.

Мы запрашаем усіх дэпутатаў мясцовых Саветаў, якія падзяляюць нашы мэты і задачы, да ўдзелу ў сумеснай працы ў Асамблеі дэпутатаў мясцовых Саветаў.

Мы запрашаем да супрацоўніцтва былых дэпутатаў мясцовых Саветаў, а таксама экспертаў.

## Неплацельшчыкаў за камунальныя паслугі — у газету!

Беспрэцэдэнтную акцыю супраць неплацельшчыкаў кватрплаты зрабілі з дазволу ўлад камунальныя службы Барысава. У свежым нумары самай масавай газеты "Борисовские новости" яны апублікавалі імёны даўжнікоў, якія пражываюць у цэнтры горада.

Адначасова ў другім матэрыяле абнародаваны спіс жыхароў горада і раёна, якія даўно не плацяць за прыродны газ. Служба ўліку вытворчага ўчастка "Барысаўміжрайгаз" у каментарыі да публікацыі паведамляе, што з пачатку года ў 60 са 179 выяўленых даўжнікоў газ ужо адключаны.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

## За хабар затрыманы двое супрацоўнікаў Брэсцкай мытні

Пры атрыманні хабару ў памеры 1700 долараў ЗША 19 чэрвеня затрыманы два супрацоўнікі Брэсцкай мытні.

Старшыя інспектары — 34-гадовы Г. і 44-гадовы Б. — у момант атрымання хабару знаходзіліся пры выкананні службовых абавязкаў на мытным пасту станцыі "Брэст-Цэнтральны". Грошы яны атрымалі ад індывідуальнага прадпрымальніка з Мінска за незаконную выдачу пасведчання формы ТС-28, якое сведчыла аб легальным увозе прадпрымальнікам на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь з Рэспублікі Польшча 76.000 долараў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**



*У парку імя Горкага ў Мінску на месцы старога "колеса обозрения" манціруецца новае, якое ў два разы больш за свайго папярэдніка. Дыяметр яго складае 52 метры, а вышыня — 64 метры. Само кола выраблена ў Маскве. Установку і мантаж ажыццяўляюць беларускія спецыялісты аб'яднання "Прамтэхмантаж". Адкрыццё новага "колеса обозрения" плануецца на 29 чэрвеня 2003 года.*

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БелТА.**

СМЕХОТУРА

# Машина времени с обратным ходом

*Миссия Всемирного банка по исследованию бедности в Беларуси, обнародовав предварительные итоги своей работы, стала автором самой большой сенсации последних лет.*

*Оказывается (к такому выводу пришли специалисты миссии), "За период с 1996 по 2000 год Беларусь достигла значительного прогресса по сокращению количества людей, живущих в бедности. В области искоренения крайней бедности также достигнут значительный прогресс..."*

Выходит, напрасно Лукашенко устраивал разгон своим министрам в начале зимы, когда утверждал, что они фактически грабят народ, залезая в его карманы и забирая даже то, что туда не положили. Выходит, напрасно он объявлял текущий год годом защиты народа. В том числе — от своего правительства.

А с другой стороны, гнать надо таких министров. Ведь Миссия использовала доступные всем данные белорусского Минстата, регулярно обследующего бюджеты домашних хозяйств. И сделала вывод о стремительном социальном прогрессе, достигнутом усилиями в том числе и самих министров. И в большей степени благодаря мудрой политике самого Лукашенко. А доложили, что народу жить стало хуже, чем вынудили президента оправдываться. Хотя вполне можно было гордиться: "Я свой народ в обиду не дал!"

Впрочем, достаточно эмоций. Статистика, какой бы она ни была, всегда оперирует цифрами. Имеет количественное измерение и так называемая черта бедности, ниже которой живут обездоленные, выше — состоятельные и богатые.

Минимальный потребительский бюджет (МПБ) впервые разработан в Беларуси в 1990 г. для оценки уровня жизни населения. МПБ представляет собой стоимость минимально необходимого набора продуктов питания, одежды, обуви, предметов длительного пользования и услуг, которые требуются каждому члену семьи из 4-х человек (мужа, жены, 13-летнего мальчика и 7-летней девочки). Такая семья в мировой практике считается эталонной при расчете показателей, характеризующих простое воспроизводство населения.

Как можно заметить, простое воспроизводство населения предполагает, что семья имеет достаточно средств для обеспечения здорового образа жизни взрослым и детям, для удовлетворения не только их материальных, но и социально-культурных потребностей. То есть деньги должны быть и для нормальной жизни, и для отдыха, и на обеспечение семьи комфортабельными бытовыми условиями. И что-то должно оставаться на случай форс-мажорных обстоятельств, например, болезни.

По это причине МПБ по стоимости равняется цене набора товаров и услуг, входящих в минимальную потребительскую корзинку, прожиточному минимуму, на котором и проходит пресловутая черта бедности. В 1990 г. эту черту определяли 100 рублей на члена семьи в месяц, ниже ее проживала 1/3 населения Беларуси. В связи с инфляцией стоимость МПБ в дальнейшем стремительно росла, реальная зарплата, напротив, сокращалась. Поэтому численность бедных нарастала, и в ноябре 1998 г. уже 83% населения Беларуси имели доход ниже МПБ, то есть жили ниже черты бедности. Таким образом, социальные последствия экономической политики властей оказались явно неприглядными. Поэтому для смягчения впечатления Минтруд опустил планку, установив, что черта бедности находится на уровне 2/3 МПБ. Новая методология дала моментальный статистический эффект: официальная численность бедных в 1998 г. снизилась с 83% до 27% от всего населения.

Иными словами, простая арифметическая операция позволяла сделать вывод, что народ стал жить хорошо. Даже лучше, чем при советской власти. Но поскольку задача вывода экономики на уровень 1990 г. еще не была выполнена, поскольку уж больно различались между собой благополучные показатели статистики с субъективными оценками своего уровня благосостояния самим народом, о победе над бедностью власть предпочитала не распространяться.

Но не спала в шапку. В 1999 году законодателями был принят Закон о бюджете прожиточного минимума, который в части продовольствия рассчитан на уровне дистрофии. То есть, если вы кладете в школьный ранец своего ребенка один бутерброд с колбасой на полдник, то это соответствует суточному потреблению им "колбасных изделий" по бюджету прожиточного минимума. Если бутербродов два — это уже уровень, в два раза превышающий уровень нуждаемости (бедности). Что касается вещей носильных, то ребенку пальто, костюм, платье должны служить не менее трех лет. О стремительно меняющейся моде (даже детской) не говорим, но и в Беларуси детишки за три года всегда растут и прибавляют в весе. А большинству и года хватает, чтобы безнадежно вырасти из штанов, даже если они куплены с запасом.

У взрослых — те же предельные сроки эксплуатации верхнего и исподнего. А что касается сложной бытовой техники, то "на черте" бедности они должны эксплуатироваться более 10 лет. То есть пока телевизор или холодильник окончательно не выйдут из строя.

Именно этот уровень "благосостояния", судя по всему, и был предложен Миссии для оценки усилий власти в борьбе за повышение народного благосостояния. И вполне логично они пришли к выводу: сегодня только 19% населения Беларуси живут в бедности. Наконец-то мы стали жить лучше, чем в БССР. Какой подарок нашим идеологам и пропагандистам. Из рук Всемирного банка!

Однако не в этом дело. Борьба с бедностью — важная задача, но решительного улучшения жизни только за счет более эффективного перераспределения ресурсов в пользу сирых не добьешься. В мире, например, растет разрыв между богатыми и бедными странами: в 1820 г. соотношение по располагаемым ресурсам между ними составляло 3:1, в 1913 г. — 11:1, в 1973 г. — 44:1 и в 1992 г. — 72:1. "Но еще более удивительно, — сказано в Докладе ПРООН о развитии человека за 1999 г., что англичане в 1820 г. имели доходы, в шесть раз превышающие доходы эфиопцев, а в 1992 г. — в сто двадцать! В то же время многие страны догоняли самые развитые. В Японии, например, доходы составляли 20% от доходов США в 1950 г. и 90% в 1992 г.

Если использовать цифры для иллюстрации нашей истории, то удивлению не будет границ. Среднедушевое потребление мяса и мясопродуктов по РБ составляет 3,9 кг в месяц, или около 47 кг в год. Это — 62% от показателя 1990 г. и 74% от показателя 1994 г. Но не это самое удивительное. Оказывается, в сельской местности среднедушевое потребление мяса и мясопродуктов составляет 3,1 кг в месяц, или около 37 кг на человека в год.

Много это или мало? Предлагаем вместе с нами посмеяться и специалистам Миссии Всемирного банка: в 1830 г. производство мяса на душу населения в России составляло 30 (!) кг. И это без учета сала и субпродуктов (в нашей статистике учитывают все), без учета "улучшения" мясных изделий разного рода добавками, благодаря которым сваренные сосиски напоминают подмороженный картофель.

Короче говоря, мы действительно не идем по пути цивилизованных народов. И, может быть, не столько потому, что это соответствует стратегическим планам наших властей, сколько потому, что наша экономика — это машина времени, у которой есть только один ход — задний. Это удивительное изобретение пытливого ума.

**Константин СКУРАТОВИЧ.**

ПУЛЬС

## На хутары знайшлі дом, што згарэў разам з гаспадарамі

Увечары 18 чэрвеня на хутары Жыгуці Браслаўскага раёна знойдзены дом і рэшткі яго гаспадароў — 71-гадовага мужчыны і яго 69-гадовай жонкі.

Як мяркуецца, пажар адбыўся каля двух дзён таму. Найбліжэйшыя населеныя пункты, дзе пражывалі людзі, знаходзяцца за 4—5 кіламетраў. Не дзіўна, што пажар, нягледзячы на тое, што полымя бушавала некалькі гадзін, ніхто не змог убачыць.

Згарэлы дом быў знойдзены знаёмым загінуўшых. Цяпер складана высветліць абставіны, што садзейнічалі ўзнікненню пажару, і прычыну ўзгарання — мала таго, што ўнутры дома практычна ўсё выгарэла, дык яшчэ і адсутнічаюць сведкі пажару.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Аштрафаваны віноўнік лясного пажару

Першы мільён рублёў штрафаў спагнаны ў Гарадоцкім раёне з віноўнікаў лясного пажару, які знішчыў нядаўна 8 гектараў таварнага сасновага лесу. Але гэтая сума не пакрывае і сотай долі нанесенага прыродзе і эканоміцы рэгіёна ўрону.

Натхнёныя пацяпленнем, тысячы грамадзян рынуліся ў лясы на адпачынак ці збор першых грыбоў, што з'явіліся пасля нядаўніх дажджоў. Нашэсце аматараў прыроды тут жа выклікала лясныя пажары, якіх толькі за першую дэкаду чэрвеня зафіксавана ў вобласці больш за 150, а пацярпела ад іх 80 гектараў лесу.

**Максім АРХІПАЎ.**

## Таямнічая лесапілка

Толькі пільнасць і настойлівасць жыхароў вёскі Бабінічы Віцебскага раёна дапамаглі мясцовым уладам даведацца аб існаванні ў гэтым населеным пункце дрэваапрацоўчага прадпрыемства.

У адказ на скаргі вяскоўцаў, стомленых пранізлівым гукам цыркулярнай пілы, у Бабінічы накіравалася рэйдавая брыгада з супрацоўнікаў райаддзела міліцыі, санэпідэмстанцыі, пажарнікаў ды іншых зацікаўленых службаў. Вынікі візіту правяраючых у вёску аказаліся нечаканымі для раённых чыноўнікаў. У Бабінічах, побач з даўно абжытымі хатамі, разгарнула дзейнасць даволі моцнае дрэваапрацоўчае прадпрыемства, сапраўднага гаспадара якога не так проста было ўстанавіць.

Аказалася, што цэх па вытворчасці дошак з электрасушылкай узнік на ўчастку, выдзеленым пад будаўніцтва прыватнага дома, а кіруе ўсім вытворчым працэсам малады чалавек, зяць гаспадыні жылой сядзібы. Ён і лес прымае, і рабочых бярэ на працу, і за якасцю перапрацоўкі драўніны сочыць, і прадукцыю некуды накіроўвае. Энергаёмістае прадпрыемства спажывае шмат электрычнасці, выдаткаванне якой не ўлічваецца і не аплачваецца, а вытворчасць існуе без дзяржаўнай рэгістрацыі.

Супрацоўнікаў міліцыі асабліва заінтрыгавала роля ва ўсім гэтым старшыні Бабініцкага сельсавета Івана Рымарава, які сваёй воляй выдзяляў участак пад узвядзенне жылога дома, на пляцоўцы якога і з'явіўся дрэваапрацоўчы заводзік. Старшыня ж цяпер заяўляе, што нічога пра лесапілку не ведаў і не мае да яе ніякага дачынення.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

СПОРТ

## У Беларускай федэрацыі футбола ўсталявалася двоеўладдзе

*Такі фактычны вынік перамоў, якія прайшлі 17 і 18 чэрвеня ў Цюрыху (Швейцарыя) паміж прадстаўнікамі Міжнароднай федэрацыі футбола (ФІФА), Саюза еўрапейскіх футбольных асацыяцый (УЕФА) і БФФ.*

Прадметам абмеркавання стала сітуацыя, якая склалася пасля выбараў новага кіраўніцтва БФФ 20 сакавіка. Нагадаем, у той дзень БФФ была пераўтворана з грамадскага аб'яднання ў асацыяцыю юрыдычных асоб, і яе прэзідэнтам стаў дзяржаўны сакратар Савета бяспекі Генадзь Нявыглас. Міжнародныя футбольныя структуры палічылі выбары нелегітымнымі, паколькі, на іх думку, яны былі праведзены ў парушэнне дасягнутых раней дамоўленасцей аб тэрмінах.

УЕФА і ФІФА заявілі аб прызнанні дзеючым былога прэзідэнта БФФ Рыгора Фёдарава і прапанавалі беларускаму боку правесці сустрэчу для ўрэгулявання спрэчак. Пасля некалькіх пераносаў яна адбылася — з удзелам былых і цяперашніх кіраўнікоў БФФ, а таксама міністра спорту і турызму Юрыя Сівакова.



*Генадзь Нявыглас.*

Шматгадзінная дыскусія завяршылася прыняццем наступнага рашэння: бакі прызнаюць Р.Фёдарава прэзідэнтам БФФ, маючым права прадстаўляць беларускі футбол на міжнародным узроўні і кіраваць фінансавымі справамі, якія тычацца праграм дапамогі з боку УЕФА і ФІФА. Усе астатнія функцыі будуць выконвацца Г.Нявыгласам. Г.Нявыглас гарантуе, што Р.Фёдараў зможа выконваць свае функцыі ў штаб-кватэры БФФ.

БФФ згодная правесці надзвычайную канферэнцыю не пазней за 15 кастрычніка 2003 года, каб шляхам тайнага галасавання ратыфікаваць абранне службовых асоб у статутныя органы, якое адбылося на канферэнцыі 20 сакавіка 2003 года, што дазволіць ім атрымаць афіцыйнае прызнанне на міжнародным узроўні. У пагадненні змяшчаецца таксама шэраг пунктаў, якія тычацца статута БФФ.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## «Шахцёр» і БАТЭ: 16 мячоў на дваіх

*На чэмпіянаце Беларусі па футболе адбыліся гульні 10 тура*

Барысаўскі БАТЭ і салігорскі "Шахцёр" забілі на дваіх 16 безадказных мячоў. Барысаўчане перамаглі з лікам 7:0 мазырскую "Славію". Тры мячы ў гэтай сустрэчы забіў Валерый Стрыпейкіс. А вось гарнякам не хапіла аднаго забітага мяча, каб зрабіць лік 10:0 у матчы са сталічнай "Зоркай-ВА-БДУ".

Лік 3:1 на карысць гаспадароў быў зафіксаваны ў дзвюх гульнях гэтага тура. Гродзенскі "Нёман" выйграў у "Маладзечна-2000", а вось мінскія дынамаўцы перамаглі жодзінскае "Тарпеда". Гэта трэцяя перамога мінчан пад кіраўніцтвам Анатоля Байдачнага.

Мінскае "Тарпеда-СКА" атрымала перамогу над "Дарыдай" з Мінскага раёна (2:0), а футбольны клуб "Гомель" з такім жа вынікам перамог наваполацкі "Нафтан".

Сталічны "Лакаматыў" быў крыху мацней за бабруйскую "Белшыну" — 3:2.

Адзіны матч дзесятага тура завяршыўся мірным зыходам. З лікам 1:1 згулялі магілёўскі "Днепр-Трансмаш" і брэсцкае "Дынама".

У турнірнай табліцы па-ранейшаму дзвюхуладдзе. Па 21 набраным ачкі маюць мінскае "Тарпеда-СКА" і футбольны клуб "Гомель". Гамяльчане дагэтуль не прапусцілі ніводнага мяча, забіўшы ў вароты сапернікаў 10 галоў.

22 чэрвеня адбудуцца сустрэчы першага тура, які быў перанесены на гэты дзень з 12 красавіка з-за дрэнных умоў надвор'я.

## Скакуны ў ваду перамаглі ў Мексіцы

Беларускія скакуны ў ваду Аляксандр Варламаў і Андрэй Мамантаў атрымалі бліскучую перамогу на Кубку свету, што праходзіў у Мексіцы.

Яны занялі першае месца ў адным з самых прэстыжных раздзелаў гэтай дысцыпліны — сінхронных скачках у ваду з дзесяціметровай вышкі. Прычым лепшымі яны сталі ў суперфінале турніру, які заканчвае серыю міжнародных турніраў па сістэме Гран-пры.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

СІТУАЦЫЯ

## «Не наша справа, дзе ім жыць...»

*Кіраўніцтва сельскагаспадарчага калектыўнага прадпрыемства "Кастрычнік" высяляе з кватэры сям'ю расійскага афіцэра*

Сямья Малахавых — Яўген, Вольга і двое непаўналетніх дзяцей — прыехала ў Беларусь у 1992 годзе. Яўген Малахаў, у той час маёр МУС, быў пераведзены з КоміАССР у Гродна. Тут яму былі абяцаны праца і кватэра. Але на месцы сітуацыя не выглядала так ружова. "Мне была прапанавана пасада начальніка спецкамендатуры №1 Гродзенскага РАУС. Гэта значыць у раёне, а не ў Гродне, ну і кватэры таксама не было. Сказалі — вялікая чарга", — успамінае Яўген Малахаў. Спачатку афіцэр разам з жонкай і двума маленькімі дзецьмі здымаў кватэру ў Гродне, а на працу (спецкамендатура знаходзілася ў весцы Навасёлкі Гродзенскага раёна) ездзіў. Спецкамендатура знаходзіцца на тэрыторыі калгаса "Кастрычнік", таму ў маі 1992 года Яўген Малахаў звярнуўся да старшыні калгаса Віктара Крэмко з просьбай аб прадастаўленні жылля ў вёсцы Навасёлкі.

Старшыня пайшоў насустрач начальніку спецкамендатуры. "Ужо ў чэрвені нам была выдзелена 2-пакаёвая кватэра ў вёсцы Навасёлкі. Ні нейкага пісьмовага рашэння, ні ордэра мы не атрымалі... Крэмко гаварыў, што нам на сям'ю з 4 чалавек знойдзе 3-пакаёўку, а пакуль мы пажывем у 2-пакаёвай кватэры", — гаворыць Яўген Малахаў.

Але прапісалі Малахавых па іншым адрасе. "Тады была талонная сістэма, і, каб мы маглі атрымоўваць прадукты ў краме ў Квасоўцы, нас прапісалі ў інтэрнаце", — успамінае Вольга Малахава.

У верасні 1993 года Яўген Малахаў напісаў заяву аб звальненні з міліцыі па ўласным жаданні. Адносіны старшыні Крэмко да сям'і Малахавых змяніліся. Былому начальніку спецкамендатуры, чалавеку з вышэйшай юрыдычнай адукацыяй, Крэмко прапанаваў уладкавацца сталяром. Малахаў палічыў гэта прыніжэннем і пачаў шукаць працу па-за межамі калгаса. Не знайшлося працы і для Вольгі Малахавай, якая выйшла з дэкрэтнага водпуску.

Канфлікт паміж сям'ёй Малахавых і кіраўніцтвам "Кастрычніка" тлеў на працягу апошніх гадоў. Абвастрэнне наступіла тады, калі старэйшая дачка паступіла ў Гродзенскі ліцэй. Ганне Малахавай ужо 17 год, яна не мае пашпарта, а від на жыхарства ўжо страціў сапраўднасць. Маці некалькі разоў ездзіла ў Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Брэсце, але там патрабуюць пацвярджэнне пастаяннага месца жыхарства. Акрамя таго, такое пацвярджэнне неабходна Ганне, каб мець магчымасць вучыцца.

Куды толькі не звярталася Вольга Малахава ў пошуках праўды — у райвыканкам, у пракуратуру, у міліцыю... Усё безвынікова. Кіраўніцтва СХКП "Кастрычнік" адмаўляецца пацвердзіць факт наяўнасці ў дзяцей прапіскі. У пісьме старшыні Гродзенскага райвыканкама М.Камарца ў пракуратуру Гродзенскага раёна гаворыцца: "Адмову пацвердзіць прапіску старшыня В.І.Крэмко патлумачыў... наяўнасцю намеру выселіць дадзеную сям'ю з жылога памяшкання". Усе проста і да болю шчыра.

У 2000 годзе Яўген Малахаў ад безвыходнасці з'ехаў назад у Расію. Цяпер ён палкоўнік і працуе намеснікам начальніка Упраўлення па кадрах і выхаваўчай працы Упраўлення выканання пакаранняў №9 ў Рэспубліцы Комі. Сям'я жыве ў Навасёлках. Ніякай іншай кватэры ў іх няма.

Хутка Яўген Малахаў будзе мець права на пенсію, ён хоча вярнуцца ў Беларусь. Але што чакае яго тут? Пагрозы выкінуць Малахавых на вуліцу — гэта не пустыя словы. СХКП "Кастрычнік" звярнулася ў суд з патрабаваннем прызнаць дамову з Малахавымі аб карыстанні жылым памяшканнем несапраўднай, а сям'ю выселіць.

"Гэта не наша справа, дзе ім жыць. Няхай самі разбіраюцца, куды ім падзецца", — заявіў карэспандэнту "Народнай волі" Ян Васілеўскі, намеснік старшыні СХКП "Кастрычнік". "Мы толькі абараняем свае правы ўласніка! Няма ордэра, няма пісьмовай дамовы, дык чаму наша прадпрыемства павінна даваць ім жыллё? Гэта наша прыватная ўласнасць, мы ім нічога не павінны", — заяўляе Елена Яшчук, старэйшы юрысконсульт СХКП "Кастрычнік".

Што і казаць, сітуацыя не з простых. Рэдакцыя газеты "Народная воля" абавязкова паведаміць чытачам аб тым, чым усё закончыцца.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

# Пустая любоў

У цяжкія часіны дзяржаўная ўлада звяртае ўвагу на сваіх карміцеляў-сялян, бо разумее, што без іх дапамогі хворую эканоміку не вылечыш.

Кожная ўлада па-свойму выкарыстоўвае сялянства. Калі прасачыць гісторыю Беларусі з 1917 года, можна вызначыць некалькі дзяржаўных падыходаў да сялянскага саслоўя. Спачатку ўлада выграбала з сялянскіх засекаў усё да зярнятка, пакідаючы гаспадарам зямлю і жыццё. Пазней, пры "бацьку" Сталіне, таксама грэблі ўсё вырашчанае, а ў тых, хто не пляскаў ад гэтага ў далоні, аднімалі і зямлю, і жыццё.

Мінуў час, і ўжо не так даўно, пачынаючы з 50-х гадоў мінулага стагоддзя, сялян прымушалі працаваць ад цямна да цямна, міласціва дазваляючы мець невялікі агарод і нейкую жывёлу. Зноў жа выграбалі ўсё ядомае, а за працу не давалі ні капейкі.

Крыху пазней, пры Хрушчове, калгаснікам сталі даваць сціплую зарплату і нават выдалі пашпарты, адабраныя раней, каб трымаць карміцеляў у прыгонным стане.

Цяпер — іншы час, але асноўныя прынцыпы адносін улады да сялянства засталіся ранейшымі, бальшавіцкімі. Нельга не заўважыць, што ў адносінах улады да сялян апошнім часам з'яўляецца нешта новае. Улада, пачынаючы з самага "верху", пастаянна клянецца ў сваёй любові да вёскі, да працавітых і памяркоўных земляробаў. Яна спачувае сельскім жыхарам з іх праблемамі і цяжкасцямі. Праўда, сёння спачувае, а заўтра зноў шукае спосабы, каб як мага больш выграбці з сялянскіх засекаў і хлявоў, не даўшы ўзамен амаль нічога. І, выграбаючы, паспачуваць абабраным, напаўгалодным карміцелям. Так бы мовіць, грабу і плачу...

Яскравай ілюстрацыяй да гэтага падыходу можна лічыць II сесію Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў 24-га склікання, якая абмеркавала мясцовую практыку выканання Закона "Аб асабістых прысядзібных гаспадарках грамадзян".

Трэба мець ужо зусім пустую галаву, каб не разумець, што без прыватных агародаў і хлявоў народ Беларусі, уключаючы начальнікаў, вымрэ з галадухі. Сёння ўжо нават нядаўнія прававерныя камуністы, армейскія зампаліты і распаўсюджвальнікі партыйна-савецкіх ідэалагічных ведаў перасталі крычаць, што "фермер не накорміць краіну", а з надзеяй сочаць за тым, як гэты фермер шчыруе на перададзенай яму зямлі дайшоўшага да ручкі калгаса.

Вось і на сесіі Віцебскага аблсавета, у якой, відаць, дзеля важнасці парадку дня браў удзел старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу акадэмік Аляксандр Вайтовіч, прагучалі ўражальныя лічбы, якія не патрабуюць каментару.

У мінулым годзе ў асабістых (прыватных, значыць) гаспадарках Віцебскай вобласці было вырашчана 93,6% бульбы, 93,3% агародніны, 18% збожжа. У насельніцтва вёсак было закуплена 19% мяса і 10% малака ад агульнага аб'ёму.

І ўсе гэтыя багацці атрыманы прыватнікамі з мінімальнымі выдаткамі. Займаючы толькі 20% ворных земляў, уладальнікі асабістых гаспадарак даюць амаль палову сельскагаспадарчай прадукцыі краіны. Збожжа, бульба, агародніна, мяса і малако з прыватных сядзібаў танней і лепш за прадукцыю калгасаў-саўгасаў і значна пераўзыходзяць яе па канкурэнтаздольнасці на знешнім рынку.



Аддача недзяржаўнага сектара аграрнай эканомікі магла б дасягнуць большага аб'ёму, калі б улада і "наверсе", і, асабліва, на месцах, разумела, што вырашэнне харчовай праблемы ў краіне цалкам залежыць ад прыватніка-селяніна і з павагай ставілася б да яго. Або хоць бы ўдумліва прачытала Закон "Аб асабістых прысядзібных гаспадарках грамадзян", у артыкуле 7 якога напісана, што дзяржава абавязана аказваць гэтым гаспадаркам не меншую падтрымку, чым калектыўным, а кіраўнікі раёнаў і сельгаспрадпрыемстваў нясуць аднолькавую адказнасць за вынікі вытворчасці як у грамадскім, так і ў асабістым сектары. Але пашы і сенакосы, прызначаныя для насельніцтва вёсак, з'яўляюцца найгоршымі па якасці, занядбанымі, а за карыстанне імі з сялян бяруць немалыя грошы.

Вяскоўцы, па сутнасці, пазбаўлены паслуг спецыялістаў-ветэрынараў. На думку старшыні Лятчанскага сельсавета Віцебскага раёна Віктара Бурдзея, які выступіў на сесіі, наспела пытанне аб стварэнні пры раённых ветлячэбніцах мабільных брыгад спецыялістаў, аснашчаных транспартам і наборам патрэбных прэпаратаў.

Вось сышліся абласныя дэпутаты, пагаварылі аб няпростым жыцці гаспадароў прыватных сядзібаў, паспачувалі вытворцам хлеба, малака і мяса. І нічога ад гэтага не змянілася і не зменіцца. Бо для таго каб сяляне маглі карміць не толькі сябе, але і ўсю краіну, трэба мяняць сістэму грамадства і дзяржавы. Ад слоў, няхай сабе шчырых і спагадлівых, перамен не дачакаешся.

У вёсцы Шаркі Шапечанскага сельсавета Віцебскага раёна летась было 16 кароў, а сёлета засталося 9, лішкі малака ад якіх гаспадары бясплатна аддаюць нямоглым суседзям, а не калгасу "Звязда".

— Хіба ж гэта грошы — 200 рублёў за літр? — абураецца жыхар вёскі Шаркі Дзмітрый Сёмачкін. — Лепш свінням аддаць, бо карова абыходзіцца дорага. За страхоўку, за пашу, за сенакос — за ўсё трэба плаціць, а як селяніну за малако — дык дробязь, але і тую затрымаюць як мага пазней.

Дарэчы, на 1 чэрвеня запазыка дзяржавы насельніцтву Віцебшчыны за малако наблізілася да 2 мільярдаў рублёў. І ў гэтым няма нічога дзіўнага, бо перапрацоўчыя прадпрыемствы скаваны банкаўскімі крэдытамі, працэнты па якіх складаюць амаль чвэрць сабекошту прадукцыі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

## Армія кватэрных злодзеяў у Барысаве

*Найбуйнейшы з пачатку года кватэрны крадзеж учынены ў Барысаве ў доме па вуліцы 50 гадоў БССР, аб чым паведамілі ў міліцыю гаспадары, якія вярнуліся з працяглай камандзіроўкі.*

Злодзеі, відаць, ведалі аб іх доўгай адсутнасці, а таму дзейнічалі спакойна і грунтоўна. Яны вывезлі ўсю бытавую тэхніку — пральную машыну, газавую пліту, швейную машыну, халадзільнік "Мінск-15", а таксама 40 скрыняў абліцовачнай пліткі і некалькі дываноў.

Як паведамілі БелаПАН у Барысаўскім ГАУС, такія "чысткі" пакінутых надоўга без ахоўнай сігналізацыі кватэр сталі ў горадзе рэгулярнымі. Днямі з кватэры Алены П. у доме па вуліцы Дняпроўскай злодзеі вынеслі спальны гарнітур. Гэта дзве шафы, два ложкі, дзве тумбачкі і трумо. Адначасова яны прыхапілі яшчэ 500 долараў ЗША і тэлефонны апарат.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

